# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна
**Банкавае конто:** Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 38 (220) — Нядзеля 17 кастрычніка 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# Захад такі задзіночыўся

Канчальны правал праекту Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, спрычынены Францыяй пасьля трохлетняй валакіты над ім, выклікаў у вольным дэмакратычным сьвеце зусім зразумелую трывогу. Пахаваньне Францыяй гэтага праекту было наступным, пасьля Жэнэўскай канфэрэнцыі ў справе Індакітаю, вялікім сукцэсам Масквы і такой-жа вялікай няўдачай Захаду. Створаная тады палітычная сытуацыя хавала у сабе дзьве вялізарныя небясьпекі: магчымасьць выхаду Амэрыкі з Эўропы і астаўленьне яе на ласку собскага лёсу або выхад Францыі з арбіты заходняе палітыкі і ейная поўная ізаляцыя. Дык ня дзіва, што гэтая трывога была поўнасьцю абаснаваная.

На фоне такіх пэсымістычных настрояў і перадбачваньняў запраўдным трыумфам Захаду аказаліся вынікі Лёнданскай канфэрэнцыі, якія перайшлі навет найбольш аптымістычныя спадзяваньні і направілі страты, спрычыненыя правалам праекту Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці. Лёнданская канфэрэнцыя дзевяцёх дзяржаваў (ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу), пачаўшыся 28 верасьня, пасьля пяцідзённых нарадаў, скончылася 3 кастрычніка падпісаньнем пагадненьня ў справе прыв ярненьня Зах. Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту, ейнага ўзбраеньня й прыняцьця ў склад збройных сілаў Атлянтычнага пакту. Важнейшыя пастановы гэтай канфэрэнцыі наступныя:

Бруксэльскі пакт з 1948 году мае быць пашыраны і да яго, апрача Вялікабрытаніі, Францыі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу, будзе ўключаная так-жа Заходняя Нямеччына й Італія. Ангельшчына забавязваецца ўтрымліваць на эўрапэйскім кантынэньце на неабмежаваны час чатыры дывізіі, а так-жа даць да распараджэньня смаё тактычнае лётніцтва, стацыянаванае на кантынэньце. Амэрыканская дапамога і гарантыі, якія былі дадзеныя эўрапэйскай арміі, астаюцца ў сіле й надалей. Нямеччына будзе мець права ўзброіць 12 дывізіяў (500.000 жаўнераў), але пры гэтым забавязваецца, што гэтыя дывізіі ня будуць ужытыя для насільнага атрыманьня страчаных ёю тэрыторыяў, як і задзіночаньня Нямеччыны. Нямеччына ня будзе мець права прадукаваць атамнай, бактэрыялягічнай і хімічнай зброі, а таксама й караблёў высокага танажу ды самалётаў. Але таксама Бэльгія і Галяндыя забавязаліся ня прадукаваць атамнага, хімічнага й бактэрыялягічнага аружжа. Саюзныя дзяржавы згадзіліся на прыв ярненьне Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту і прыступленьня яе да Атлянтычнага пакту.

Гэта толькі агульныя й аснаўныя пастановы, якія маюць быць удакладненыя й здэталізаваныя падчас раду наступных канфэрэнцыяў, якія маюць адбыцца ў прысьпешаным тэмпе й закончыцца на працягу кастрычніка з тым, каб на пачатку 1955 году пастановы Лёнданскай канфэрэнцыі былі ратыфікаваныя ўсімі сямю эўрапэйскімі дзяржавамі. Францускі прэм'ер Мэндэз Франс, каб упэўніцца ў магчымасьці далейшае рэалізацыі пастановаў Лёнданскай канфэрэнцыі, склікаў на 7 кастрычніка надзвычайные паседжаньне парляманту, на якім зажадаў для сябе вотум даверу. Гэты давер ён атрымаў вялікай бальшынёй галасоў, бо толькі камуністыя галасавалі супраць, а дэголістыя паўстрымаліся ад галасаваньня. Вынік галасавньня французскага парляманту паказвае, што пастановы Лёнданскай канфэрэнцыі будуць ім ратыфікаваныя. У выпадку, калі Францыя да 1-га студзеня 1955 году гэтых пастановаў не ратыфікуе, дык ЗША і Вялікабрытанія зашчэ гэтага дня адмовяцца ў сваіх зонах Нямеччыны ад капупацыйных правоў і будуць бяз Францыі ўзбройваць іх.

Падпісаньне Лёнданскага пагадненьня бясспрэчна мае значэньне вялікае й зьяўляецца зваротным пунктам у гісторыі пасьляваеннай Эўропы. Гэтае значэньне ў першую чаргу заключаецца ў тым, што напасьледак, хоць і ў іншай як ранней прадабачанай форме, супольная сыстэма заходняэўрапэйскай абароны будзе такі створаная якраз на базе паразуменьня між Францыяй і Нямеччынай. Праўда, выглядае дзіўным, што гэтая абаронная сыстэма паўстане якраз толькі пры ўмове агранічэньняў нямецкіх збраеньняў у той час, калі Саветы ані самі не агранічваюцца ў збройных перагонках, ані ня робяць гэтага із сваімі сатэлітамі. Тым ня меней, тая пустата, якая дагэтуль існавала ў вабаронных мерапрыемствах Заходняй Эўропы, будзе напасьледак запоўненая. Розныя абаронныя праекты й пляны, якія дагэтуль знаходзіліся ў стадыі бясплодных дыскусіяў, нарадаў і безьлічы канфэрэнцыяў, пяройдуць у стадыю канкрэтнае рэалізацыі.

Але значэньне Лёнданскага пагадненьня на гэтым не канчаецца. Справа ў тым, што Ангельшчына, якая ад стагодзьдзяў стаяла з боку ад эўрапэйскага кантынэнту, гэтым разам, змушаная бязвыхаднай сытуацыяй, у вялікай меры ёй-жа створанай, у час міру зьвязалася мілітарна з кантынэнтам і згадзілася трыймаць на ім свае збройныя сілы. Яна-ж, дзякуючы сваей дыпляматычнай актыўнасьці і ініцыятыве, праяўленай пасьля няўдачы з эўрапэйскай арміяй, значна спрычынілася да бліскучых вынікаў Лёнданскае канфэрэнцыі. Гэтым яна як-бы направіла і надрабіла ў Заходняй Эўропе тое, што папсула на Далёкім Усходзе.

Такім чынам Лёнданская канфэрэнцыя канчальна разьвеіла тую згушчаную атмасфэру трывогі й занепакаеньня, якая была завісла над Захадам пасьля правалу Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці. Цяпер, абнадзеяныя апошнімі дасягненьнямі, уваходзім у пэрыяд заспакаеньня.

(-іч)

# Прэзыдэнт Абрамчык адведаў Мюнхэн

Ад 26 верасьня да 4 кастрычніка сёлета Прэзыдэнт Рады БНР сп. Мікола Абрамчык прабываў у Мюнхэне.

Як даведваемся, прыехаў сюды Прэзыдэнт Абрамчык на жаданьне прадстаўнікоў Парыскага Блёку пражываючых у Мюнхэне, каб выслухаць яго, як старшыню нядаўна адбытых канфэрэнцыяў у Парыжы і пачуць ад яго беспасярэдна, у якой стадыі цяпер знаходзяцца перагаворы з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму.

Прэзыдэнт Абрамчык меў некалькі паседжаньняў з прадстаўнікамі Парыскага Блёку, а таксама некалькі спатканьняў з прадстаўнікмі Амэрыканскага Камітэту, Амэрыканскім Дараднікам пры Інстытуце для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР ды некаторымі лідэрамі расейскіх палітычных групаў. Апрача гэтага, Прэзыдэнт Абрамчык адведаў беларускую сэкцыю радыя «Вызваленьне» і меў нарады з тутэйшным беларускім актывам.

У гутарцы із супрацоўнікамі «Бацькаўшчыны» Прэзыдэнт Абрамчык выказаўся, што ён вельмі задаволены з вынікаў парыскай канфэрэнцыі. 8 нерасейскіх народаў, — сказаў ён — на нядаўнай канфэрэнцыі ў Парыжы яшчэ раз задэманстравалі ня толькі адзінства супольнага свайго фронту, але таксама й сваю здольнасьць і ўменьне ў падыходжаньні да разьвязкі стаячых перад імі актуальных заданьняў. Аўтарытэт Парыскага Блёку пасьля дзьвюх парыскіх канфэрэнцыяў значна пачаў падыймацца яшчэ. За гэтыя апошнія дні на імя кіраўніцтва Парыскага Блёку паступілі яшчэ дзьве новыя заявы вельмі паважных арганізацыяў аб прыняцьці іх у Парыскі Блёк. Прадбачваецца такім чынам уліцьцё ў Парыскі Блёк чатырох паважных палітычных нацыянальных цэнтраў нерасейскіх народаў, якія дагэтуль ад блёку стаялі з боку. На нашае пытаньне, якая рэакцыя на сфармуляваныя на парыскай канфэрэнцыі праекты з боку Амэрыканскага Камітэту і Расейцаў, Прэзыдэнт Абрамчык адказаў:

«Што да Расейцаў, то зь некаторых тут маіх спатканьняў зь іхнымі лідэрамі я вынес уражаньне, што бальшыня трох чацьвертых расейскіх арганізацыяў, зь якімі Амэрыканскі Камітэт лічыць патрэбным супрацоўнічаць, сьхіляецца да нашага другога праекту (стварэньне двух асобных цэнтраў: аднаго для нерасейцаў, а другога для Расейцаў). Першы-ж праект (адзіны цэнтр супольны з Расейцамі) Расейцы катэгарычна адкідаюць і лічуць яго нат за немагчымы да абгаварваньня. Гэтыя Расейцы заяўляюць, што ў вадзіны цэнтр яны могуць уключыцца толькі тады, калі ім будзе там дадзена 50% месцаў і галасоў. У праекце-ж нашым, выработаным у Парыжы, Расейцам даецца 3 месцы супраць 8 нерасейскіх, а ў будучыні нат 3 супраць 11, калі Парыскі Блёк будзе папоўнены. Сяньня таму выглядае трохі дзіўным, што Расейцы так раптам павярнулі да ідэі двух асобных цэнтраў. Ідэя двух цэнтраў была пададзеная Амэрыканскаму Камітэту, як у мэмарыяле Парыскага Блёку яшчэ ў 1952 годзе, але тады Расейцы амаль аднагодна і слухаць не хацелі аб гэтым. Выглядае цяпер, што для Амэрыканскага Камітэту будзе вельмі лёгка знайсьці выхад.

Паколькі, як сказана вышэй, тры чацьвертыя расейскіх арганізацыяў катэгарычна адкінулі першы праект і стаяць за два асобныя цэнтры, а Парыскі Блёк права выбару аднаго з сваіх двух праектаў прадставіў Амэрыканскаму Камітэту, дык цяпер усё будзе залежыць ад Амэрыканцаў. Расейцы-ж, калі яны ўзапраўды шчыра стаяць за два асобныя цэнтры, дык мусяць перадусім стварыць свой запраўдны **расейскі** цэнтр, бо тое, што яны ўважаюць расейскім цэнтрам — былы КЦАБ, уключна з рознымі свамі сатэлітамі, зложанымі з розных фікцыйных «нацыяналаў», ніколі і ў ніякім выпадку Парыскім Блёкам за расейскі цэнтр ня прызнаецца.

# Працуем, творым і маем дасягненьні

Апошнім часам наглядаецца нязвычайнае ажыўленьне дыпляматычнае дзейнасьці. Ствараецца ўражаньне, што дэмакратычны сьвет пачынае ўсьведамляць небясьпечнасьць камуністычнай экспансіі на Далёкім Усходзе і неабходнасьць перагляду дасюлешніх сваіх пазыцыяў у вабліччы ўзрастаючай камуністычнай загрозы таксама і на эўрапэйскім адрэзку фронту халоднае вайны. Пры гэтай нагодзе ці ня варта было-б прыгледзіцца, як рэагуе на гэта беларуская палітычная эміграцыя. Паўстае пытаньне, на колькі нашыя палітычныя дзейнікі ўсьведамляюць сабе сур'ёзнасьць дадзенага мамэнту і што робяць у кірунку ўмацаваньня сваіх пазыцыяў так нутраных, як і вонкавых.

Паколькі такі агляд дзейнасьці лягчэй рабіць там, дзе яна відавочна праяўляецца, пастолькі гэта зьяўляецца цяжкім заданьнем у дачыненьні да тых г. зв. палітычных угрупаваньняў, якія апрача цьверджаньня, што яны такімі зьяўляюцца, не праяўляюць ніякіх пазытыўных адзнакаў жыцьця. У сувязі з гэтым разгляд дзейнасьці Рады БНР на чале зь ейным Прэзыдэнтам сп. Міколам Абрамчыкам адложым на далейшы плян і пачнём ад цяжэйшага, пайменна ад разгляду палітычнага аблічча, калі такое ёсьць, і праяваў палітычнага жыцьця г. зв. БЦР-аўскай групы. У наяўнасьці аднак абсалютнай нястачы вонкавых адзнакаў жыцьця гэтае групы, мы змушаныя схапіцца за рэдкую нагоду і зазглянуць у прэсу, рэпрэзэнтуючую БЦР-аўскі кірунак, калі можна тут гаварыць наагул аб кірунку, паколькі паняцьце кірунку неадлучна зьвязанае з паняцьцем руху. Вось-жа прэса зьяўляецца або прынамся павінна зьяўляцца люстраным адбіцьцём аблічча рэпрэзэнтаванай ёю палітычнай групы так у сэньсе яе нутранай сілы, як і вонкавага палітычнага патэнцыялу. Прашу прабачэньня чытача, што агранічуся тут толькі да аднэй газэты, пайменна да «Беларускага Слова». Іншыя спарадычныя выданьні, як «Беларуская Трыбуна», «Незалежная Беларусь», рад розных «Патрыётаў», «Пугаў» і падобных або ўжо памерлі, або зьяўляюцца ў стадыі агоніі. Дык дазвольце мне глянуць, калі ня ў люстра, дык прынамся ў гэнае БЦР-аўскае люстэрка — «Беларускае Слова». Прыгледзімся, як-жа выглядае гэны «рух» паводля апошняга нумару ўспомненай газэты.

Вось-жа адразу кідаецца ў вочы адкрыты ліст сп. Астроўскага ў рэдакцыю «Беларускага Слова». Калі прыпушчаць, што сп. Астроўскі зьяўляецца рэдактарам гэтае газэты, дык справа выглядае наступна: сп. Астроўскі піша да сп. Астроўскага аб сп. Астроўскім. Гэта напасьледак ня важна. Важным для нас сам зьмест лісту. Дык вось там мы даведваемся, што сп. Астроўскі «стаіць», пры гэтым «цьвёрда і непахісна» стаіць і не шавеліцца і ўсё на гэтым нашым бедным Акце 25 Сакавіка.

Праўда, добра прынамся тое, што стаіць ды ня топчацца, але стаяньне — гэта ня рух. Бяда ў тым, што, стоячы сам, змушаў стаяць і тых, якія за ім ідуць. Прадстаўляецца абраз калёны ў маршы. Першыя рады затрымоўваюцца, калёна трохі мітусіцца, чуваць запытаньні, у чым справа: Брацьцы! Усё заціхае і стаіць. У гэтым сэньсе ён не памыліўся. Калі разглядаць БЦР як фактар палітычны, дык яга ня толькі стаіць, але й адмірае. У палітычным жыцьці ўсё тое, што ў бязруху, аўтаматычна западае ў нябыцьцё.

Пойдзем аднак далей. Там знаходзім артыкул нейкага сп. Попкі на тэму дэмаграфіі Беларусі. Артыкул абаснаваны на савецкай энцыкляпэдыі. Ня будзем уваходзіць у дыскусію ў справе правільнасьці ці памылковасьці разважаньняў успомненага сп. Попкі. Затрымаемся толькі на адным. Ён піша, што можна было-б пагадзіцца з мэмарыялам сп. Прэзыдэнта Абрамчыка, зложаным перад Камісіяй Кэрстэна ў пытаньні бальшавіцкага гэносыду на Беларусі, калі-б сп. Абрамчык выступаў ад імя вёскі Сычавічы, а не ад імя беларускага грамадзтва. Сп. Попка мае права мець сваю думку і мы ня маем намеру яго пераконваць. На нашае шчасьце, паважнейшыя людзі расьцэньваюць дзейнасьць прэзыдэнта Абрамчыка іначай і лічаць патрэбным лічыцца зь ягонай апініяй. У далейшым мы разгледзім дакладней тыя дасягненьні, якія заўдзячвае беларуская эміграцыя якраз дзейнасьці й бязупыннаму руху, а не «непахіснаму стаяньню», Прэзыдэнта Абрамчыка і ўзначаленай ім Рады БНР.

Што-ж можна было-б яшчэ дакінуць, гаворачы аб БЦР? У ягоным люстэрку не знаходзім больш нічога годнага ўвагі. Зразумела, ня відаць там БВР на чале із Зарэчным, паколькі гэты апошні пасьля «нутранага перавароту» пастанавіў «дзеіць на собскую руку». Аб БВР таксама нельга шмат сказаць. Ведаем, што ёсьць Зарэчны, ведаем яго аўтабіяграфію, ведаем, што ёсьць і «штаб» і што за ім стаіць «кампактная маса», якая бальшынёю 99,99% стаіць за сваім «правадыром» супраць Астроўскага і БЦР, ну, і гэта хіба ўсё.

Але няхай чытач дазволіць мне вярнуцца на часіну да «Беларускага Слова». Мне прыкра, што надужываю цярплівасьць чытачоў «Бацькаўшчыны», асабліва тых, якія за яе рэгулярна плацяць, але «Беларускае Слова» — гэта такая рэдкая нагода, што мімаволі прыходзіцца затрымацца над такімі унікатамі беларускай эміграцыйнай прэсы.

Там мы знаходзім і рэзалюцыю сп. Кахаyоўскага, які якраз зьяўляецца сябрам Рады БНР. Зьмешчаная яна аднак не таму, што сп. Каханоўскі сябра Рады, але таму, што яна займае апазыцыйнае становішча да дзейнасьці сп. Абрамчыка, апрабаванай бальшынёю Рады. Відавочна БЦР-аўская група, як шчыра «дэмакратычная», прынамся за такую сябе аб'яўляе, і таму хіба ўступіла ў АБН, цешыцца із таго, што ўсё-ж Рада БНР не такая ўжо й таталітарная, калі ёсьць апазыцыя. Мы цешымся разам зь імі.

Кажная **канструктыўная** апазыцыя ёсьць нязвычайна карысным зьявішчам. Прыгледзьмася аднак бліжэй да гэтай рэзалюцыі. З сумам мусім сьцьвердзіць, што нічога пазытыўна будуючага там не знаходзім. Што нам сяньня паможа прызнаваць памерлы БАФ? Гэта нас ані на крок не пасуне наперад. БАФ згуляў сваю ролю і ня спляміўся ніякім дыскрымінуючым яго ў вачох беларускіх патрыётаў палітычным ходам. Змагаўся, пакуль ня змогся, але ў КЦАБ ня ўступіў. Апрача гэтага, у ўспомненай рэзалюцыі выглядае, што сп. Каханоўскі супраць дасюлешняй вонкавай палітыкі Рады БНР і Прэзыдэнта Абрамчыка. Супраць! — і больш нічога. Трэба прызнаць, што ня шмат. На маю думку, было-б шмат карысьней, калі-б сп. Каханоўскі трохі прынатужыўся і замест або побач зь «няпрызнаваньнем» высунуў канкрэтную праграму ў пытаньнях вонкавае палітыкі і паказаў шляхі яе рэалізацыі. Але на гэта трэба ахвоты, ахвярнасьці і..., што найважнейшае, арыентацыі ў палітычнай сытуацыі.

Мы мусім аб'ектыўна прызнаць, што сп. Каханоўскі зьяўляецца адным зь лепшых арганізатараў лякальнага беларускага жыцьця. Прыкладам гэтага няхай паслужыць добра зарганізаваная беларуская кліўлендзкая група. Сп. Каханоўскаму хапае добрае волі і ахвярнасьці дзеля працы на беларускай грамадзкай ніве. Аднак-жа ў сэньсе вонкавай палітыкі ён не апраўдаў пакладаных у ім надзеяў. Праўда, яму даволі цяжка выпрацаваць аб'ектыўны суд аб агульнай палітычнай сытуацыі, аб нашай у ёй ролі, аб агульна прынятых мэтадах і тактыцы ў дыпляматыі, паколькі ён агранічаны крыніцамі, маючы толькі магчымасьць карыстацца расейскай, украінскай ды беларускай прэсай, але гэта не апраўдвае ягонага нэгатыўнага становішча. Ад людзей на ягоным інтэлектуальным узроўні можна было-б спадзявацца больш пазытыўнага ўдзелу ў палітычным жыцьці Рады БНР.

Да гэтага яшчэ іншая бяда, якая датычыць наагул ладнай часткі нашага палітычна-грамадзкага актыву ў ЗША, а пайменна, што ў супрацьпаставу да сп. Астроўскага, яны, дзякуючы вышэйшаму матарыяльнаму ўзроўню, знайшлі лепшы спосаб удзелу ў нашым вызвольным змаганьні і не «стаяць», а проста «сядзяць» на тым-жа Акце 25 Сакавіка і толькі ад часу да часу натужваюцца, каб сказаць, што дрэнна робіцца і яны з гэтым не пагаджаюцца. Даражэнькія сябры! Беларускай Народнай Рэспубліцы ня «высядзім» і ня «выстаім». За яе трэба змагацца. У гэтае змаганьне павінны ўключыцца і «седзячыя» і «стоячыя». Калі нехта не згаджаецца з агульнай лініяй вонкавай палітыкі Рады, палітыкі, апрабаванай вялізарнай бальшынёю яе сяброў на апошняй сэсіі, дык няхай творыць канструктыўную апазыцыю, няхай выпрацоўвае сваю праграму, няхай намагаецца пераняць кіраўніцтва ў свае рукі, даказваючы на прыкладзе сваей дзейнасьці правільнасьць занятага становішча.

Тымчасам мы павінны сяньня цешыцца, што ёсьць людзі, якія самаахвярна аддаюцца ўсёцэла працы на беларускай грамадзкай і палітычнай ніве. **Факты** няхай гавораць самі за сябе. Нястомная праца актыву Рады БНР, а перадусім сп. Прэзыдэнта Абрамчыка за апошні час высунула Беларусаў на вядучае становішча ў эміграцыйным палітычным жыцьці. Нікому хіба не зьяўляецца тайніцай, што паўстаньне такога саліднага і рэпрэзэнтатыўнага палітычнага арганізму, якім зьяўляецца Парыскі Блёк, ёсьць рэзультатам нястомных змаганьняў сп. Прэзыдэнта Абрамчыка разам із сьв. памяці Гегечкорым, былым Прэзыдэнтам грузінскага эгзыльнага ўраду, ведамага із сваей палітычнай мудрасьці і дыпляматычнага такту. Пасьля ягонай сьмерці сябры Парыскага Блёку даверылі сп. Прэзыдэнту Абрамчыку далейшае рэпрэ-

**(Заканчэньне на 2-ай балоне)**

# Новы Старшыня АКВБ

**(ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ АД БАЛЬШАВІЗМУ)**

**НЬЮ-ЁРК**, 29. 9. 54 г. — Сяньня з Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму было паведамлена, што на старшыню Камітэту выбраны былы памочнік дзяржаўнага сакратара ЗША рэсорту грамадзкіх справаў Гоўленд Сарджэнт. Адначасна было паведамлена аб дымісіі былага старшыні Амэрыкаскага Камітэту віцэ-адмірала Лесьлі К. Стывэнса, аўтара нядаўна выдадзенай кнігі «Заданьні Расеі». Адмірал Стывэнс заявіў, што заснаваўшы радыё «Вызваленьне», ён пакідае Камітэт, каб пасьвяціць свой час літаратурнай і іншай дзейнасьці, якая адказвае ягоным заінтэрэсаваньням. Адмірал Стывэнс астаецца сябром-заснавальнікам Камітэту і ягоным кансультантам.

Да выбару на становішча старшыні Амэрыканскага Камітэту, сп. Сарджэнт быў кансультантам Фордаўскага Фонду ў справах нагляду за праграмамі чужаземнага вывучаньня й досьледаў. Ён іграў актыўную ролю ў вапрацоўваньні ўрадавых праграмаў ЗША ў справе разьвіцьця міжнароднай вымены інфармацыяў, у тым ліку й значнага пашырэньня апэратыўных магчымасьцяў «Голасу Амэрыкі» ў 1950—51 г. г. У той час ён быў заступнікам дзяржаўнага сакратара.

Містэр Сарджэнт прыступіў да выконваньня сваіх абявязкаў 1 кастрычніка сёлета. Ён заявіў, што будзе прадаўжаць тую палітыку, якой трымаўся Камітэт пад кіраўніцтвам адм. Стывэнса.

**Містэр Сарджент** сказаў: «Амэрыканскі Камітэт будзе выконваць праекты, якія ёсьць прызначаныя да аслабленьня савецкіх уплываў і да ўзмацненьня духу супраціву народаў за зялезнай заслонай у Савецкім Саюзе. Камітэт і надалей будзе базаваць сваю дзейнасьць на эфэктыўным супрацоўніцтве з антыкамуністычнай эміграцыяй з Савецкага Саюзу, а так-жа прыдзержывацца амэрыканскага прынцыпу самавызначэньня розных нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу. Нашае галоўнае й беспасярэднае заданьне будзе й надалей палягаць на правядзеньні практычных праектаў антыбальшавіцкай дзейнасьці ў супрацоўніцтве з адказнымі элемэнтамі эміграцыі. Мы плянуем расшырыць працу двух існуючых, — якія становяцца штораз эфэктыўнейшымі — прадпрыемстваў Камітэту: радыястанцыі «Вызваленьне» і Інстытуту для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР і ўзмоцніць іхны кантакт з эміграцыяй».

У заяве адмірала Стывэнса гаварылася: «Перадаючы кіраўніцтва Камітэтам містару Сарджэнту, пасля двух год працы на становішчы старшыні Камітэту, я з задаваленьнем канстатую, што радыё «Вызваленьне» і Інстытут для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР вырасьлі за гэты час у дзеючыя інструмэнты антыбальшавіцкага змаганьня. Пра гэта сьветчаць заявы апошніх перабежчыкаў із савецкага блёку, а таксама атакі на Камітэт і працаўнікоў радыястанцыі «Вызваленьне» ў савецкай прэсе й радыё. Радыястанцыя «Вызваленьне» працуе цяпер на 9 перадатчыках і перадае праграмы на 17-ці найбольш распаўсюджаных мовах Савецкага Саюзу. Кваліфікацыі пэрсаналу й якасьць перадачаў бесьперапынна паляпшаюцца. Інстытут пастаўлены на багата нацыянальную аснову і цяпер прыгатаўляецца да сур'ёзнай працы навуковага характару. Я буду прадаўжаць актыўны ўдзел у гэтых пачынаньнях, як таксама ў зьдзейсьненьні іншых праектаў, якія падтрымлівае Камітэт».

Новы старшыня Камітэту, містэр Сарджэнт нарадзіўся ў Нью Бедфордзе, Массачусэтс, 13 ліпеня 1911 г. і закончыў у 1932 г. Дартмаўдзкі каледж. Ён прадаўжаў студыі ў Оксфордзкім унівэрсытэце як стыпэндысты ім. Роўдэса і атрымаў у Оксфордзе цэлы рад навуковых ступеняў.

Некалькі год ён працаваў у сыстэме Фэдэральнага банку крэдытаваньня жыльлёвага будаўніцтва, прыймаў удзел у стварэньні нацыянальна-навуковага фонду Акадэміі Навук, служыў у розных урадавых установах ваеннага часу, а ў 1947 годзе пашоў на службу ў Дзяржаўны Дэпартамант ЗША. У лютым 1952 г. ён быў назначаны памочнікам Дзяржаўнага Сакратара ў грамадзкіх справах. Быў старшынёю дэлегацыі ЗША на трох канфэрэнцыях ЮНЭСКО, а ў 1951 г. быў старшынёю Парыскай канфэрэнцыі.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

# Такі крок вітаем

**ДА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ УЗАЕМАДАЧЫНЕНЬНЯЎ**

У вадным з папярэдніх нумароў «Бацькаўшчыны» быў зьмешчаны спэцыяльны артыкул, прысьвечаны польскай эміграцыйнай групе «людоўцаў» Станіслава Мікалайчыка, якія гуртуюцца вакол выдаванага ў Швэцыі месячніка «Наш Знак». Тады была зьвернутая нашая ўвага на артыкул сп. В. Собчыка «Між мэгаляманіяй і рэчаіснасьцю» («Наш Знак», № 22, сакавік 1954), у якім польскі аўтар, крытыкуючы пляны будучай Пальшчы «ад мора да мора», выстаўляныя польскімі санацыйнымі і эндэцкімі коламі на эміграцыі, высказаўся станоўча за патрэбай польскай рэалістычнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусаў і Ўкраінцаў, вызнаючы за імі поўнае права на дзяржаўную незалежнасьць. Такое становішча групы польскай эміграцыі мы тады прывіталі і выказалі нашую надзею, што калі гэткім шляхам пойдзе палітыка будучай незалежнай Польшчы, — а існуюць падставы думаць, што так — дык будзе знойдзеная справядлівая разьвязка беларуска-польскага пытаньня ў духу запраўдных патрэбаў гэтых народаў.

Артыкул Балеслава Пшыбыльскага «Праблема Міжмор'я», зьмешчаны ў нумары 28 за верасень 1954 г. ў успомненым часапісе «Наш Знак», дае нам добрую нагоду яшчэ раз вярнуцца да пытаньня беларуска-польскіх узаемадачыненьняў.

Але спачатку, дзеля паінфармаваньня, мусім коратка спыніцца над самой канцэпцыяй «Міжмор'я», высунутай сп. Пшыбыльскім, якая шмат розьніцца ад канцэпцыі, прапагаванай раней польскімі коламі, зьбліжанымі да польскага эгзыльнага ўраду ў Лёндане.

Гэтая апошняя канцэпцыя прадбачыла фэдэрацыю шаснаццацёх народаў між Балтыйскім, Чорным і Адрыятычным морам, як народаў, што перад апошняй вайной мелі свае незалежныя дзяржавы, гэтак і тых, як Беларусы і Ўкраінцы, што іх раней ня мелі. Міжморская канцэпцыя Пшыбыльскага значна вузейшая: яна мае на думцы «геаграфічны прастор у вадазборах Одры, Віслы, Нёману, Дняпра й Днестру, на якім побач сябе жывуць у зазубленьні чатыры народы: польскі, украінскі, беларускі і летувіскі».

Гэтта паўстрымаемся ад спрэцызаваньня нашага прынцыповага становішча ў справе міжморскай фэдэрацыйнай канцэпцыі, як і грунтоўнае аналізы праекту Пшыбыльскага, бо гэтым пытаньням прыйшлося-б прысьвяціць прынамся два спэцыяльныя артыкулы. Адцемім толькі, што канцэпцыя апошняя, у выпадку згоды на яе чатырох успомненых народаў — Палякаў, Украінцаў, Беларусаў і Летувісаў, якія зьвязаныя між сабой і геаграфічна, і гаспадарска, і культурна і гістарычна, ці, як гаворыць Пшыбыльскі, «жывуць у зазубленьні», — магла-б аказацца больш мэтазгоднай і рэальнай.

Але вернемся да тэмы нашага артыкулу і прагледзім, як польскі аўтар Б. Пшыбыльскі разглядае праблему беларуска-польскіх узаемадачыненьняў, як у рамах сваей міжморскай канцэпцыі, гэтак і вонках яе.

Аўтар, ня ў прыклад іншым Палякам, выходзіць з правільнай ацэны нацыянальнага пытаньня на Беларусі і Ўкраіне. Ён сьцьвярджае, што польскі культурны ўплыў на гэтых землях абмежаваўся толькі да шляхоцкіх двароў, якія ў высокім працэньце спалянізаваліся, затое народ у сваей масе астаўся гэтым уплывам «незачэплены». «У канцы XIX стагодзьдзя і ў першай палавіне XX — піша ён — два народы праходзяць працэс поўнага нанцыянальнага ўсьведамленьня і выражаюць стыхійны гон да незалежнага быту ў форме новачаснай дзяржавы — ёсьць гэта Украінцы і Беларусы». Далей аўтар наракае, што бальшыня польскіх палітыкаў ёсьць далёкай ад пазытыўнага настаўленьня да нацыянальных асьпірацыяў усходніх суседзяў і выказвае свой пагляд на гэтую справу: «Цяпер, у сілу гістарычных зьменаў, заданьне Польшчы на Ўсходзе зводзіцца не да заўладаньня страчанымі «Крэсамі», але да дапамогі народам украінскаму і беларускаму ў здабыцьці поўнай незалежнасьці і да здабыцьця іх да цеснага культурна-гаспадарскага супрацоўніцтва. Гэта ёсьць канечнай перадумовай да спаралiжаваньня імпэрыялістычных імкненьняў Масквы і будучай фэдэрацыі сярэдня-ўсходняй Эўропы».

Напасьледак Пшыбыльскі прэцызуе дзевяць прынцыпаў, якія прамаўляюць за мірным урэгуляваньнем польска-украінска-беларускага канфлікту. Прыводзім іх поўнасьцю:

«1. Гон Украінцаў і Беларусаў да незалежнага быту, абсалютная нэгацыя якой-небудзь сувязі з Польшчаній, якая паменшвала-б іх сувэрэннасньць

2. Праблема ўкраінская й беларуская сталася ўжо часткава праблемай пасьляваеннага сьвету, а довадам гэтага ёсьць паказаньні сп. М. Абрамчыка, старшыні Беларускай Нацыянальнай Рады,дня 28 чэрвеня сёлета перад Камісіяй Кангрэсу ЗША — Кэрстэна...

3. Ня можна дапусьціць да перасяленьня польскага насельніцтва з над Одры й Нісы назад на «Крэсы» і тым самым да выхаду із Зьвернутых Земляў.

4. Будучыня Польшчы ляжыць у ейных цяперашніх межах у форме зьлітнай нацыянальнай дзяржавы.

5. Прастор ад Одры па Збруч і Дзьвіну для 25 мільёнаў Палякаў стварае небясьпеку «расьцярушаньня» і біялягічнага скорчаньня...

6. Пагоня за Польшчай ад мора да мора ськівоўвае высілкі на хвальшывыя шляхі і прапарцыянальна ўзрастае небясьпека ўпакаваньня ў рамы якогась Варшаўскага Княства.

7. Польшча, абапёртая аб Одру й Нісу, пры прыязным усходнім заплеччы, мае найлепшыя перадумовы параліжаваньня нямецкага «Дранг нах Остэн», спрыяе дабрабыту грамадзян у прамыслова-аграрнай дзяржаве і мае шансы культурнага й гаспадарскага ўзьдзейваньня на Ўсход. У такой сытуацыі Польшча становіцца канструктыўным дзейнікам у пабудове фэдэрацыі сярэдня-ўсходняй Эўропы.

8. У інтарэсе самога польскага народу ёсьць пажаданым, каб ад расейскага колёса адгарадзілі яго сільныя й здаровыя незалежныя дзяржавы.

9. За ўрэгуляваньнем гэтых справаў прамаўляе звычайная чэснасьць і руплівасьць аб будучых пакаленьнях».

Ня месца ў вадным артыкуле разьбіраць усіх гэтых мамэнтаў. Пры глыбейшай іх аналізе, пэўне-ж, знайшлося-б яшчэ болей аргумэнтаў, якія прамаўлялі-б за ўрэгуляваньнем польска-беларускіх узаемадачыненьняў у духу ўзаемнага паразуменьня для дабра абодвых народаў і трывалага парадку на ўсходзе Эўропы. Але й вышэй прыведзеныя даюць ужо шырокую базу для дыскусіі над праблемаю будучага сужыцьця між Беларусамі й Палякамі. Таму гэты крок з польскага боку шчыра вітаем.

На фоне такой пазыцыі, занятай ужо ня першы раз часапісам «Наш Знак», прыкрым дысанансам зьяўляецца палітыка бальшыні польскае эміграцыі, згуртаванай вакол польскага эгзыльнага ўраду ў Лёндане і г. зв. «Зьвязу Паўночна-Ўсходніх Земляў». Гэтыя групы, сьлепа трымаючыся традыцыйнай канцэпцыі «ад мора да мора» ды нэгуючы правы Беларусаў і Ўкраінцаў да іхнага незалежнага дзяржаўнага быту, з аднаго боку паралiжуюць магчымасьці польска-беларускага паразуменьня й сужыцьця, а з другога — неразважна шкодзяць і інтарэсам самой Польшчы.

Не падлягае сумлеву, што Нямеччына, якая сяньня здабывае што раз больш

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Працуем, творым і маем дасягненьні

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

зэнтаваньне яго навонкі. Сяньня Парыскі Блёк прадстаўляе сабою салідную палітычную фірму, з апініяй якога лічацца так іншыя эміграцыйныя ўгрупаваньні, як і прадстаўнікі заходня-дэмакратычнага сьвету.

Нядаўняя рэарганізацыя Інстытуту для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР зьяўляецца беспасярэдняй заслугай Парыскага Блёку. Гэтая рэарганізацыя зьяўляецца важным крокам наперад у ўактыўненьні супольнага змаганьня супраць камунізму. Шматлікія Расейцы, якія былі выключнымі гаспадарамі Інстытуту, здаецца, зразумелі таксама, што ўдзел у працах Інстытуту ўсіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу дасьць шмат лепшыя рэзультаты, чымся ўдзел адных толькі Расейцаў.

Такія дасягненьні, як беларускія радыяперадачы ў радыё «Вызваленьне», зьяўляюцца вынікам беспасярэдніх хаданьняў і бязупынных намаганьняў зноў-жа сп. Прэзыдэнта Абрамчыка й актыву Рады БНР. Беларуская эміграцыя мае сяньня магчымасьць гаварыць да сваіх суродзічаў на Бацькаўшчыне і інфармаваць іх так аб беларускім жыцьці на чужыне, як і аб агульна-палітычных падзеях сьвету. Хіба ня знойдзецца сяньня ніводнага чэснага Беларуса, які-б з гэтага ня цешыўся. Мне прыходзілася часта гутарыць з прадстаўнікамі БЦРаўскай групы, якія, даведаўшыся аб вышэй успомненых дасягненьнях казалі: «Так, вось гэта праца. Прызнаём Раду БНР, ці ня прызнаём, але шчыра з гэтага цешымся!»

Нельга не залічыць у рад дасягненьняў цягласьць і, параўнальна, высокі ўзровень такога воргану, якім зьяўляецца «Бацькаўшчына», якая ёсьць амаль адзіным духовым лучнікам беларускай эміграцыі. Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўзбагаціла бібліятэкі беларускага эмігранта новымі кніжкамі і дало матарыял, на якім ён узгадоўвае сваё будучае пакаленьне ў духу любові да свайго краю й народу.

Нельга пералічыць усяго, ды ці й ёсьць патрэба? Хачу толькі запытаць усіх, тых, што «непахісна стаяць» ці «ўпорыста сядзяць», ці ўсе гэтыя дасягненьні маглі прыйсьці самі, ці дзеля гэтага патрэбны нясупынны рух, настойлівасьць, ахвярнасьць, праца і змаганьне?

Спадзяюся, што мы зможам адказаць пазытыўна на пастаўленае на пачатку артыкулу пытаньне. Нашыя вядучыя ворганы Рады БНР разумеюць веліч стаячага перад імі заданьня і ў меру сваіх сілаў і магчымасьцяў выконваюць узятыя на сябе нацыянальныя абавязкі. У гэтым ім дапамагаў і дапамагае кажны Беларус, ня гледзячы на тое, на якой ступенцы грамадзкай драбіны ён знаходзіцца.

**С. Бор**

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

**ПАЭМА**
**(Працяг)**

11)

I дзед раптам замаўкае
Ды на хлопчыка глядзіць,
Палец к чолу прыціскае.
— Ну як будзеш тут судзіць?
А вам, дзедка, не здавалась,
Вы ня думалі аб тым,
Што і ў лесе адбівалась,
Як адбілася ўва ўсім,
Жыцьцё, дзедку, адчуваньне?
Я так думаю, дзядок,
Што на сьвеце ўсё дазваньня,
Нават камень і лясок,
Мае думкі і настроі,
Толькі-ж нам іх не згадаць:
Трэба чыстым быць душою,
Каб іх тайнасьці пазнаць. —
Дзед у хлопца ўтарапіўся.
— А цікавы ты хлапец:
Развважаеш, як мудрэц,
Бы старэчым ты радзіўся. —
Азірнуўся дзед таёмна.
— Стаў я штось тут прымячаць,
Эгэ-ж, хлопча: ночкай цёмнай
Штось дзіўное тут чуваць.
Штось тут творыцца у ночы, —
Сам пачуеш ты, эгэ-ж,
Ці то жарты патарочы,
Ці то знак які прарочы,
Ці там што — не разьбярэш.
Не натрапіш таго сьледу,
Не налучыш ты на троп. —
Пазіраў Сымон на дзеда.
На маршчыністы той лоб
I так слухае ўнікліва —
Захапляе хлопца дзіва.

Сымон

А якая-ж тут праява?

Дзед Даніла

Эгэ-ж, хлопча: дзіўна справа?
Хтось цярэбіць тут дарогу...
Будзе зьмена, будзе зьмена!
Ідзе новае калена,
Яно тут, каля парогу,
Бо на сьвеце ўсё ня вечна,
I зямля свой твар мяняе,
Хваля хвалю паганяе,
Пераходзіць бераг рэчны, —
Усё ў стане пераходу,
А тым болей, хлопча, людзі:
Яны самі сабе судзьдзі,
Хто згадае іх прыгоду?

Сымон

А скажы мне, дзеду любы,
Чаму так на сьвеце стала,
Што адным даецца мала,
А другому — аж за губы?
Хоць-бы тут: раскошства, пыха,
А багацьця, ох, багацьця!
А другі ў ярме закляцьця
Шлеі цягне, сваё ліха?
Хто багацьце разьмяркоўваў,
Той дзяліў несправядліва,
Не для ўсіх зямля ўрадліва...
Чыя-ж гэта воля-змова?

Дзед Даніла

Эгэ-ж, хлопча, у тым справа,
Што ня роўны людзі ў сьвеце:
Слабы, цёмны жыве ў сьмецьці,
А дужэйшы правіць права,
Езьдзіць, лейцы ўзяўшы ў рукі...
Эгэ-ж: сіла ў гэтай штучцы.
Але, хлопча, лейцы рвуцца,
А бязь іх няма панукі.

Сымон

А чаму-ж бы іх адразу
Не парваць, дзядок, і квіта?

Дзед Даніла

Іх часіна не пазбыта,
Не настаў той час заказу.

Сымон

А хіба-ж ён сам настане?
I наогул сам ці прыдзе?
I ці будзе канец крыўдзе,
Калі ждаць другога стану?

Дзед Даніла

На ўсё ёсьць свая часіна,
I ўсё прыдзе ў сваім часе,
I заслона ўжо ўзьнялася,
Дзе хавалася прычына.
Ёсьць у сьвеце розум нейчы,
Ён і піша ўсім законы,
Накладае забароны,
Час вартуе кожнай рэчы,
Ён зьнімае і кароны.
Што йдзе проціў яго волі
Ці ня ў часе выступае,
Тое нішчыць цьма сьляпая,
Тое жыць ня мае долі.

Сымон

А як стане няўтрываньне,
I тады чакаць пакорна,
Покі стане жыць прасторна?
А змаганьне? Дзе-ж змаганьне?
Ой, не, дзедку: проціў сілы
Можна ставіць толькі сілу,
Калі хочаш ты ўстаць з пылу,
Калі цягнуць зь цябе жылы.

Дзед Даніла

Хо-хо, хлопча: ты гарачы.
Ну, а ў замак як папаў?
Сваёй воляй прытрапаў?
Эгэ-ж, не, мусіць, іначай!
Дзе-ж было тваё змаганьне?
Толькі ў думках, так ці не?
Адлажыў, здаецца, мне,
Ты свой момант паквітаньня...
Не, мой хлопча, нічагутка

# Новая хваля антырэлігійнай прапаганды

Ужо некалькі месяцаў заўважваецца ўзрост антырэлігійнай прапаганды ў Савецкім Саюзе. Гэная новая хваля змаганьня з рэлігіяй зьяўляецца фактычна другой у савецкай гісторыі, калі разглядаць яе з гледзішча яе інтэнсыўнасьці. Апошняя, якая мела месца у трыццатых гадох, і здавалася, павінна была канчальна выкараніць «буржуазныя» рэлігійныя пачуцьці, як відаць, не дала пажаданых вынікаў і не задаволіла камуністычных верхаводаў. Новы этап узможанай антырэлігійнай прапаганды дае нам шмат да думаньня. Для нас ніколі ня было тайніцай, што рэлігія, якая, у васаблівасьці сярод беларускага народу, тварыла інтэгральную частку народнае душы, асталася і надалей аснаўным элемэнтам духовага жыцьця, даючы вечную крыніцу сілы, неабходнай для безупыннага адпору супраць бязбожнага камунізму. Ня было гэта тайніцай і для кіруючай верхавіны так дзяржаўнага, як і партыйнага апарату Савецкага Саюзу. Аднак, бадай, у пяршыню яны былі змушаны прызнацца да бясплоднасьці дасюлешніх намаганьняў у галіне выкараненьня рэлігійных пачуцьцяў сярод насельніцтва Савецкага Саюзу.

Ворган камуністычнай партыі «Правда» у артыкуле «Разгарнуць яшчэ шырэй назуковую атэістычную прапаганду», замешчаным у № 205, пацьвярджае нашыя прыпушчэньні. Пасьля доўгіх вывадаў аб перамогах камунізму ў змаганьні з буржуазнай ідэялёгіяй, «Правда» мусіла аднак далей прызнацца, што **«гэта ня знача, што рэшткі капіталістычнай ідэялёгіі не асталіся яшчэ сярод некаторых слаёў нашага насельніцтва».** Далей чытаем даслоўна **«Гэтыя рэлігійныя забабоны яшчэ сяньня затраўляюць пэўную частку нашага насельніцтва і ў значнай меры перашкаджаюць гэтым людзям актыўна ўдзельнічаць у камуністычным будаўніцтве».**

Гэта ўжо нішто іншае, як афіцыйнае прызнаньне бясплоднасьці дасюлешняга змаганьня з гэнымі «прадрассудкамі». Успомнены артыкул з «Правды» ставіць закід некаторым партыйным арганізацыям, як прафсаюзам, камсамолу і піянэрам — няправільную інтэрпрэтацыю савецкай канстытуцыі, якая ўсё-ж гарантуе «свабоду рэлігійнага культу і антырэлігійнай прапаганды». Паймена, яна закідае ім «талеранцыю і нэўтральнасьць» у адносінах да рэлігійнай прапаганды. Далей «Правда» закідае, што камуністычная прэса прысьвячае мала ўвагі пытаньням антырэлігійнай прапаганды, што ўзровень антырэлігійнай літаратуры вельмі нізкі, што антырэлігійныя даклады зьяўляюцца «ідэялягічна прымітыўнымі і ня пераконваючымі» і што ўрэшце іхняя колькасьць усьцяж зьмяншаецца. Зь ня меншай крытыкай выступае «Правда» і ў адносінах да школьніцтва, якое, паводле яе, зьвяртае недастаткова ўвагі на антырэлігійнае ўзгадаваньне моладзі. Бязумоўна, усё гэта зьяўляецца прызнаньнем бясьсільнасьці камуністычнай ідэялёгіі ў параўнаньні з хрысьціянскай! Надарэмна шукаюць руплівыя правадыры камуністычнай партыі прычынаў заняпаду антырэлігійнай прапаганды і росту рэлігійных пачуцьцяў сярод працоўных і інтэлектуальных масаў. Як-бы яны не падымалі ўзровень матарыялістычнай ідэялёгіі, яна ніколі не асягне тэй пераконваючай сілы, якая мае ў сабе навука Хрыста. Як-бы яны не намагаліся пераўзгадаваць чалавека у бяздушную жывёліну, іх высілкі астануцца бясплоднымі. Чалавек, створаны Богам на Ягонае падабенства, ён ніколі не задаволіцца прымітыўным матарыялізмам і сьведама, ці падсьведама будзе ўсьцяж імкнуцца да тае дасканаласьці, на вобраз якое ён створаны. Яны могуць змусіць маўчаць, загнаць, як скаціну на іх, як самі прызнаюць, прымітыўныя даклады, але яны ня ў сіле зьмяніць ход вольных думак і закаваць людзкую душу ў чыста матарыяльную камуністычную ідэялёгію. Хіба-ж няма больш наяўнага доказу існаваньня іскры Божай у чалавека, як той факт, што новае пакаленьне, узгадаванае выключна на камуністычнай ідэялёгіі, шукае духовага адпружаньня і задаваленьня духовых патрэбаў у звароце да рэлігіі. Прыклады Сёмкіна, аб якім піша «Литературная газета» з 4-га лютага г. г., гэта не паадзіночныя выпадкі, але натуральнае зьявішча жыцьця ў савецкіх абставінах. **Яго змаглі змусіць прыняць вонкавы выгляд «актывістага», але не патрапілі і не патрапяць зачыніць ані Сёмкіну, ані мільёнам яму падобных шляху да вечнай праўды, якою зьяўляецца навука Хрыста.**

Вось як канчае «Правда» вышэй цытаваны артыкул: «У нашай сацыялістычнай грамадзкасьці ёсьць усе магчымасьці, каб поўнасьцю перамагчы рэшткі капіталістычнай ідэялёгіі, уключна із рэлігійнымі прадрассудкамі. Неабходна разгарнуць магчыма найшырэй навуковую атэістычную прапаганду і палепшыць яе ідэялягічны зьмест». Можна паверыць вам, што «сацыялістычная грамадзкасьць» мае шмат «розных магчымасьцяў». Мы ўключаем сюды й тыя нам ужо дастаткова ведамыя: куля ў патыліцу, галодная сьмерць у тайзе Сібіру, непасільная «сацыялістычная» праца зь яе 150 і 200% перавыкананьня нормаў, перасяленьні, падвалы НКВД, канцэнтрацыйныя лягеры і т. п., але запэўняем камуністычных дыктатараў, што ніводная зь іх ня была, ня ёсьць і ня будзе ў сілах спыніць ўзросту пачуцьцяў сярод народаў Савецкага Саюзу.

**С. Грынеў**

# Калі экспэрты не заблытаюць

**(ФЭЛЬЕТОН)**

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьня)**

У хвіліну, калі мы пішам гэты агляд, даходзяць чуткі, што ў Лёндане зь вялікім болем і высілкамі зьлеплена нейкае пагадненьне. Гэта значыць коштам вялікіх уступак на карысьць Францыі (на якія яна бадай не заслугоўвае) удзельнікі канфэрэнцыі могуць напісаць у камунікаце, што «дагаварыліся ў прынцыповых пытаньнях». Цяпер работу будзе прадаўжаць камісія экспэртаў, якія маюць распрацаваць дэталі.

Навучаны горкім дасьветчаньнем, я-б ніколі не даручаў паважных спраў экспэртам. Экспэрты гэта людзі гэтак званай «набітай рукі» і рутыны. Экспэрты павінны выкладаць у гімназіях, але лепш іх не дапускаць да работы, дзе трэба ўлажыць душу. А ў гэту справу трэба ўлажыць душу. Але будзем спадзявацца, што гэтыя экспэрты ўложаць у справу ня толькі рутыну, але і выскрабуць душу. Усё-ж паўстае пытаньне: чаму так позна?.. Праўда лепш позна, чымся ніколі і пры ўсім нашым пэсымізьме, можам сказаць, што яшчэ не запозна, калі-б ад гэтага мамэнту распачалася эфэктоўная кансалідацыя вольнага сьвету. Аднак ня можна, з сумам, ня сьцьвердзіць, што гэта павінна было стацца прынамсі некалькі гадоў пярвей.

Калі ў 2054-м годзе будзе яшчэ існаваць жыцьцё й культура на нашай плянэце (а спадзяемся за сто гадоў чалавецтва дачухаецца да розуму й лёгікі), а якісь гісторык неасьцярожна возьмецца за гісторыю дыплёматыі пасьля другой сусьветнай вайны, — думаю, што ён, капаючыся ў архіўальным патопе, прынамся за пару месяцаў станецца сівы як яблынка, але ані на міліграм разумнейшы. Не бяручы пад увагу ваеннай дыплёматычнай мітусьні, пачнём з Потсдаму гэта значыць ад лета 1945-га году. Ад Потсдаму аж да цяперашняга Лёндану — гэта 9-ць гадоў і чатыры месяцы амаль бязупынных канфэрэнцыяў, радаў, нарадаў, зьездаў, пераездаў, зьлётаў, пералётаў. Прэм'еры, міністры, заступнікі міністраў, дарадчыкі, экспэрты — у бязупынных падарожжах. Сяньня лятуць на Бэрмуды, заўтра — у Жэнэву, пазаўтраму ў Манілю, адтуль — на Тайвань, з Тайвані — у Бонн, з Бонн у Парыж, Рым, Лёндан... Шэры чалавек, які мае яшчэ крыху глузду ня можа ня спытацца: «Чаго яны шукаюць?»... Гэты шэры чалавек ня мае ні часу, ні магчымасьці ўглыбіцца ў цэлую прэцызыйную машыну цяперашняй дыпляматыі і таму ў яго атрымоўваецца ўражаньне, што ўсё гэтыя дыпляматыя бегаюць як маладыя каткі, за сваімі хвастамі. І калі-б такога разьлятанага палітыка хваціць зьнянацку за кляпы і спытаць, чаго ён лётае, ён-бы ў першую хвіліну разгубіўся й ня змог-бы даць рачовага выясьненьня. І толькі крышку апамятаўшыся, адказаў-бы зашмальцаваным, стаптаным камуналам: «шукаю міру...» Гэта значыць — шукаю, чаго ня згубіў, але пры гэтым жнець — што пасеяў.

Праўда, нам сяньня лёгка вытыкаць памылкі мінулага і паказваць хібы зробленыя 37 гадоў таму назад. Але мастацтва дыпляматыі палягае на прадугледжваньні і выбяганьні на пакаленьні ўперад, а прынамсі — на рабленьні адпаведных высноваў з гісторыі.

Цэлая гэта трагікамічная лятаніна цяперашніх палітыкаў ёсьць вынікам даўгагадовага партацтва. Калі ў 17-м годзе бальшавікі йшлі да ўлады з лёзунгам усясьветнай рэвалюцыі, трэба было спадзявацца, што гэта небясьпечная галавешка ўсясьветнага пажару. І трэба было гэту галавешку гасіць, бо няведама якія вятры яе раздуюць. Але мала хто на Захадзе над гэтым глыбей задумаўся. Праўда была гэтак званая «інтэрвэнцыя», якая спрычыніла больш шкоды, чымся, каб яе ня было. Бо калі Троцкі на гвалт зьбіраў восі і калёсы, шрубкі і гайкі, каб змантаваць свой гістарычны цягнік, у якім ён кідаўся з аднаго канца Расеі ў другі і пад Казаньняй разьбіваў Дзенікіна, а пад Петраградам Юдзеніча, пасьля ляцеў пад Варшаву — альянцкае войска, гэтак званая «інтэрвэнцыя» высадзіўшыся ў Мурманску ела кэксы ды лавіла белых мядзьведзяў. Або ў Баку ангельцы грэліся на сонцы і вудзілі рыбу. Бальшавікі зьнішчылі дзясяткі мільёнаў людзей, а Захад не зрабіў з гэтага адпаведнага гвалту, але калі інтэрвэнты расстралялі ў Баку 26 камустых з Шаўмянам — бальшавіцкая прапаганда раздула з гэтага трагэдыю, якой яшчэ сяньня пужае сваю моладзь. Уканцы «інтэрвэнты», не зрабіўшы ніякай інтэрвэнцыі, спакаваўшы свае прычындалы разьехаліся. І гэтым, што дваццаць гадоў рабілася ў Савецкім Саюзе мала цікавіліся. Бальшавікі панявольвалі й ліквідавалі народы, расстрэльвалі мільёны людзей, другія мільёны марылі голадам, калектывізавалі, камунізавалі, праводзілі пяцігодкі, вытваралі новы тып чалавека і новыя правы жыцьця. Ані на крок не адступалі ад сваіх галоўных плянаў — усясьветнай рэвалюцыі, гэта значыць стварэньня на ўсёй зямлі аднаго вялікага саўгасу. Ані на хвіліну ня скрывалі, што усе — паводле іх «гнілыя» ідэалёгіі, правы, звычаі, мараль і культуру заходняга сьвету, яны выкінуць на сьметнік. А заходні сьвет зь мінай добра выхаванага джэнтэльмэна адварачваўся плячмі, бо належыць да благога тону заглядаць, што варыцца ў гаршку суседа, хаця смурод з гэтага гаршка пачаў разыходзіцца на ўсю ваколіцу. Нават праступны згавор двух разбойнікаў — Гітлера й Сталіна й вынік гэтага — усясьветны катаклізм, ня вывелі Захад з сыбарыцка-наншалянцкіх адносінаў да камунізму. Толькі, калі цяжкі савецкі бот стаў на грудзях Эўропы, заходні сьвет убачыў, што ў міжчасе — чаго ён і не заўважыў — вырас нейкі грозны калёс. Захад, хаця і спалохаўся ўбачыўшы гэту тушу, але яшчэ з наіўным апартунізмам спадзяваўся, што можа як-колечы дасца з гэтай даўбешкай сужыцца каэгзыставаць. Са страўсавай дыскрэцыяй вольны сьвет дазволіў камуністычнаму дракону праглынуць яшчэ некалькі вольных народаў з наіўнай і набожнай надзеяй, што ён імі ўдавіцца. І толькі ўбачыўшы, што чым больш гэты дракон есьць, тым лепш пераварвае і большы мае апэтыт — дыплёматы вольнага сьвету замітусіліся ды забегалі. Але, як бачым, вынікі гэтай некалькі — гадовай мітусьні, вельмі мізэрныя. Ды й сапраўды нялёгка адрабіць столькі памылак стольких гадоў.

Далёка яшчэ ня ўсё добра, аднак ёсьць пацяшаючыя сымптомы: вольны сьвет штораз больш разумее набясьпеку з боку агрэсыўнага камунізму і штораз менш верыць у магчымасьць мірнай каэгзыстэнцыі на даўжэйшую мэту. Таму трэба спадзявацца, што лёнданскае пагадненьне — хаця далёкае ад ідэалу — можа спрычыніцца да кансалідацыі сілаў вольнага сьвету.

Рэч зразумелая, калі экспэрты не заблытаюць справы ў гардыйскі вузёл. А тады трэба будзе Алэксандра Македонскага. Ды бяда ў тым, што Македонскія ня родзяцца на запатрабаваньне.

**пс**

# Такі крок вітаем

(Працяг з 2-ой балоны)

голас у заходнім сьвеце, а на выпадак вайны з Саветамі ейнае значэньне і роля стануцца яшчэ большымі, не захоча дабравольна зрачыся на карысьць Польшчы страчаных ёю ўсходніх земляў. Для Польшчы-ж землі гэтыя, ужо заселеныя Палякамі, маюць бясспрэчна большае і гаспадарскае і палітычнае значэньне, чымся землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, вольныя ўжо ад польскага элемэнту. Наймацнейшым аргумэнтам Палякаў для ўтрыманьня лініі Одра-Ніса зьяўляецца ейная згода з дакананным фактам і становучая адмова ад граніцаў 1939 году. І, наадварот, такім-жа наймацнейшым аргумэнтам Немцаў за зварот сваіх усходніх земляў будзе дамаганьне павароту да Польшчы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў форме рэкампэнсаты. Таму палітыка тэй бальшыні эміграцыйных Палякаў за зваротам заходня-баларускіх і заходня-украінскіх земляў зьяўляецца толькі вадой на млын нямецкіх рэвізіяністычных плянаў. Дзякуючы такой палітыцы, можна страціць і новапрылучаныя да Польшчы тэрыторыі і не атрымаць адлучаных ад яе беларускіх і ўкраінскіх земляў на Ўсходзе.

У сьвятле гэтага разумныя словы перасьцярогі Пшыбыльскага, што гон Палякаў да адбудовы Польшчы «ад мора да мора» можа ўпакаваць яе ў рамы якогась Варшаўскага Княства», набіраюць асаблівай вымовы.

**Алесь Крыга**

# Новыя беларускія грамафонныя пліткі

**Галоўнае Кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы выдае грамафонныя пліткі, якія будуць насьпяваныя хорам аддзелу ЗБМ у Кліўленд пад кіраўніцтвам кампазытара М. Куліковіча. Будуць найграныя наступныя беларускія песьні: 1-ая плітка: «О, Беларусь, мая шыпшына» (дуэт) і «Вось і ўпаў ужо змрок» (вальс); 2-ая плітка: «Ой, борам, борам» (народная вясельная) і «Шастак» (народная скочная); 3-яя плітка: «Люблю наш край», «Гэй вы, брацьці» (застольная) і «Нашы пінскі акаліцы» (прыпеўкі зь «Пінскае шляхты»).**

**Пасьля распрадажы гэтых плітак плянуецца выпуск наступных. Цана аднае пліткі 1 амэрыканскі даляр.**

**Заказваць пліткі можна або ў Галоўным Кіраўніцтве Саюзу Беларускае Моладзі ў Амэрыцы паводля адрасу:**

**1421 Castle Ave. Cleveland. 13, Ohio. U.S.A.**
**або ў аддзелах СБМ:**
**у Нью Ёрку:**
**Mr. V. Polonievich, 174 Clinton Ave,**
**New York 2, N. Y. U.S.A.**

Ты ня зробіш без пары,
А надарыцца мінутка,
Тады ўсё тваё — бяры...
А ты, хлопчыку, музыка?
Гэта скрыпіца твая?
А ну, хлопча, папілікай.
Маладым быў, граў і я. —
У тым парку радавітых
Тых князёў-багатыроў
Хвалі гукаў самавітых,
Смуткам, скаргай апавітых
Цёмных пушчаў і палёў,
Паліліся, задрыжалі,
Як-бы срэбра рассыпалі
У галінках тапалёў.
І, здавалася, жывое
Нешта йшло ад гэтых струн,
Бы дух згоды і спакою,
Чараўнік які, вяшчун
Натыхае ім, дрыготным,
Каб высока душу ўзьняць,
Каб вясёлым і маркотным
Чары гукаў паказаць.
Слухаў дзед, акамянелы,
Апусьціўшы вочы ўніз,
А пад вусам пабялелым
Губы ціханька трасьлісь.
Часы «жыткі» маладое,
Родны кут, далёкі край,
Гоман пушчаў, голас хвояў, —
Дзе ўсё гэта? ня пытай!
Не вярнуцца ім ніколі!
І цяпер, бы скрозь туман,
Устае прад ім і поле,
І балоты, і курган.

Дзед Даніла

Здольны-ж ты, мой дабрадзею!
Ты навёў туман чароўны;
Гэты гоман струн бясслоўны
Так расчуліць сэрца ўмее!..
А дзе-ж ты спыніўся ў замку!
І спытаць было ня ўцямку.

Сымон

Там, пры кухні.

Дзед Даніла

А ты-б можа
Перашоў ка мне, нябожа!
Там душы агонь затухне...
Ня люблю я пярні панскай,
Палупанкаў, ахмістрынь —
Дух падлізьніцкі, паганскі,
Прападзі ён там і згінь!
А мой дом — унь, бач, альтанка?
Будзем там мы жыць удвух,
Хай сабе ня мураванка,
Ды ў ёй наш сялянскі дух.

Сымон

Шчыра дзякую, дзядок!
Вельмі рад, пайду ахвотна,
Бо мне, дзядку, там маркотна —
Там ступіць баішся крок.

Дзед Даніла

Ото-ж бачыш. А са мною
Будзе лепш табе, эгэ-ж!
Зь дзедам ты не прападзеш,
Як за добраю сьцяною.

Дзедава альтанка

Зроблена з аполкаў,
Чыста ў ёй і сьветла;
Печ, як маці, ветла.
Горне, як каханка,
Дзедава сьвяцёлка.
Хораша і проста —
Дзед Даніла з густам.
І палок выгодны,
Блізкі сэрцу, родны.
Сплецена зь бяросты
Кайстра густа-густа.
У сьцяне лапчасты
Рог, мабыць, ласіны.
Стрэльба-паядынка,
І труба-старынка
Спрытна, выгіnаста,
Зроблена зь лясіны.
Ёсьць тут і аншэтак
І лучнік пры печы, —
Словам свая хата
Селяніна-брата.
Многа блізкіх вестак
Кут дае старэчы.

І застаўся тут хлапчынка.
Зьнікла тая маркота:
Зь дзедам кожная часінка
Так ці йначай занята!
То гамоняць між сабою
То майструюць што-нібудзь
Або важнаю ступою
У вабход у парк ідуць.
Падзівіцца-ж тут было чым,
Разважаць было аб чым,
А Даніла быў ахвочы
Волю словам даць сваім,
І даць нават тлумачэньне
З свайго погляду-знацьця
Неразгаданым сьпляценьням,
Зьявам цёмнага жыцьця.
Раз у вечар дзед з Сымонам
Выйшлі ў парк у свой абход.
Сутунела. Дзесь за клёнам
Месяц чырваніў усход,
Выступаючы ў вабходы,
Што прызначаны яму;
Зоры зь неба вокам згоды
Угледаліся скрозь цьму.
Было ціха і лагодна.
— Стой, паслухаем, дзядок:
Дзесь іграюць, дзедка родны...
Выйдзем унь на той грудок.
— Гэта, хлопча, тут ня дзіва!
Эгэ-ж тромкаюць паны! —
Хлопчык гукі ловіць хціва,
Ім валодаюць яны.

Зноў гарыць у ім жаданьне
Тайнасьць нотаў пасягнуць
І заслону адгарнуць,
Каб развеяць ноч нязнаньня.
Ён ідзе на тыя гукі,
Ён стаіўся пад акном,
Зашчаміўшы моцна рукі, —
Ён ня сьмее ўвайсьці ў дом:
Там — паны, а ён — басота,
Сын мужычы, ён «псякосьць»,
Паднявольны ён тут госьць,
Яго месца — каля плота...
Эх, няроўныя дзьве часьці!
Ён — нікчэмнасьць, ён — друза...
І з вачэй гатова спасьці
Крыўды горкая сьляза.
Эх, для панскае пацехі
І для забаўкі паноў
Вы, саломеныя стрэхі,
Марна траціце сыноў!..

(Далей будзе)

# Сход прыходу БАПЦарквы у Нью Ерку

У нядзелю 26 верасьня сёлета адбыўся пасьля Божай Службы Агульны Сход сяброў прыходу Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Нью Ёрку.

Сход, які паблагаславіў прысутны на ім Яго Праасьвяшчэнства архіяпіскап Васіль, распачаўся малітвай Ойча Наш. На Сходзе так сама быў прысутны настаяцель прыходу пратаярэй Данілюк. Сход адчыніў старшыня Царкоўнага Камітэту праф. Дарашэвіч. На старшыню сходу быў выбраны сп. Б. Данілюк, а на сакратара сп. Валюшка.

Кароткую справаздачу зрабіў уступаючы старшыня праф. Дарашэвіч, а фінансавую др. А. Орса. Із справаздачы вынікла, што гэты камітэт працаваў ад студзеня 1951 году, а называў сябе часовым. Бо як на «часовы», дык вельмі-ж была яго доўгая кадэнцыя, амаль 4 гады. Праўда, рабілі спробы склікаць сходы, але яны не адбываліся, бо толькі аб гэтым паведамлялі з амбоны. Таму прыходзілі толькі тыя, якія былі ў царкве ці прыпадкам аб гэтым даведаліся. Гэтым разам, праўда, былі разасланыя пісьмовыя паведамленьні, хаця вельмі прымітыўнага характару, дык зьявілася даволі вялікая колькасьць прыхаджан. Аказваецца, што Камітэт за час свае «часовае» дзейнасьці ня змог зрабіць іменных сьпіскаў прыхаджан, а на запытаньне, колькі, прыкладам, душ лічыць прыход, ніхто ня мог паінфармаваць прысутных.

Фінансавая справаздача была тэхнічна падгатавана добра, зь якой было відаць, што былі значныя грашовыя абароты. Аднак справа магла-б выглядаць шмат лепей, каб былі сьпіскі прыхаджанаў і рэгулярна зьбіраўся царкоўны падатак, які ўстаноўлены ў вышыні аднаго даляра ад сям'і ў месяц.

Пасьля доўгай і ажыўленай дыскусіі была зложаная падзяка ўступаючаму ўраду і пры гэтай нагодзе адзначаная актыўная ягоная дзейнасьць у 1951 годзе, калі якраз арганізаваўся гэты прыход. Далей сход вынес падзяку Яго Праасьвяшчэнству Архіяпіскапу Васілю й пратаярэю Данілюку за іхнюю ахвярную працу на карысьць і славу БАПЦарквы.

Клопат быў з выбарам новага кіраўніцтва Камітэту, бо, як заўсёды ў Нью-Ёрку, вельмі цяжка знайсьці чалавека на адказную працу, ніхто ня хоча браць на сябе грамадзкіх абавязкаў. Пасьля доўгіх намоваў і пераконваньняў выбралі на старшыню Камітэту інж. М. Гарошку, а на сяброў Б. Данілюка, Л. Леўковіча, Б. Казьляноўскага і М. Тарашкевіча. У Кантрольную Камісію ўвайшлі В. Русак, П. Мельяновіч і Я. Ніхаёнак.

Напасьледак парушаліся справы рознага характару. Асаблівая ўвага была зьвернутая на ненаведваньні царквы моладзьдзю. Гэта вельмі прыкрая справа ў Нью-Ёрку, дзе ёсьць шмат беларускай моладзі, а ў царкоўным хоры няма ніводнай дзяўчыны, а некаторыя з тутэйшых Беларусаў, што ўважаюць сябе вялікімі нацыяналістымі, пасылаюць сваіх дзяцей навет у расейскую царкву. Калі гэтак будзе далей, дык па нейкім часе на Службе Божай будзе толькі адзін архіяпіскап з пару вернымі яму прыхаджанамі.

Сход закончыўся малітваю і ўсе разыйшліся з новай надзеяй на лепшую будучыню прыходу БАПЦарквы ў Нью-Ёрку.

**К. Мацкевіч**

### АСАБІСТАЕ

**Ліцэнцыят Лювэнскага Ўнівэрсытэту спадар Тодар Цімафейчык уступіў у сужэнства із спадарыняй Даротай Сміте. Шлюб адбыўся ў нядзелю 17 кастрычніка ў капліцы беларускіх студэнтаў у Лювэне.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» паздраўляе Маладую Пару і жадае Ёй найбольш шчасьця й памыснасьці ў Ейным сямейным жыцьці, а таксама плоднай і пасьпяховай працы на беларускай нацыянальнай ніве.**

# Таварыш Астарашков скаліць зубы...

Мы ўжо чулі крыху пра новую хвалю антырэлігійнае прапаганды, што лынула нядаўна на Беларусь з узмоцненай сілай. У ход пушчана ўся зброя з атэістычнага арсэналу камуністых, пачынаючы ад «навуковых» працаў цераз «лекцыі» раённых агітатараў аж да пашквільных фэльетонаў штодзённае прэсы. Эгзэмплярчык гэтага апошняга жанру, спад пяра таварыша Астарашкава, даволі выразна інфармуе нас аб бездапаможнасьці «ідэялягічнае» работы «ваінствуюшчага бязбожжа» на Беларусі. Ніжэй падаем вынядкі з фэльетону тав. Астарашкава, што быў надрукаваны ў воргане ЦК партыі й Вярхоўнага Савету БССР, газэце «Советская Белоруссія» з 12-га верасьня сёлета.

### У ЗАСЕНІ «ІГРУШЫ»

Па дарозе ў кірунку Бушміцкіх хутароў нам сустрэўся высокага росту хударлявы стары. Апрануты ён быў пасьвяточнаму.

— Куды, дзеду, накіраваўся? — папытаўся ў старога адзін з нашых спадарожнікаў. — Ці не на вясельле?

— Туды, куды ўсе людзі йдуць, — зь незалежным відам адказаў стары, а пасьля дабавіў:

— Пад ігрушу, на спленьне...

— А што гэта такое? — пацікавіліся мы.

— Аб гэтым Усявышні знае, — ухільна адказаў дзед і, абганяючы нас, закрочыў па дарозе.

Чым бліжэй падыходзілі мы да Бушмічоў, тым жывейшая рабілася дарога. Ішлі старыя з вузельчыкамі й кашолкамі, зь якіх выглядалі бутэлькі ды розная спажыва. Дзяўчаты ў новых сукенках беражліва несьлі ў руках мадэльныя туфлі, адна за аднэй ехалі фурманкі, самакаты й нат аўтамашыны.

— Усёй грамадой ідуць, — з горычай заўважыла нашая спадарожніца, дзяўчына з калгасу ймя Молатава. — У нашым калгасе, прыкладам, ужо трэйці дзень ніхто не працуе, дый у суседніх таксама. Ой-жа, гэтая «ігруша»! Яна штогоду нам дорага абыходзіцца... Адны гуляюць, другія да іх у госьці йдуць. А працаваць няма каму. Зерне на карані асыпаецца, прапростае, малацьба стаіць, а ўзімку гэтыя гуляшчыя плачуць: «Хлеб дрэнна ўрадзіў, на працадні мала атрымоўваем»...

— І доўга яны сьвяткуюць?

— Як калі. Іншым разам, дык больш за тыдзень.

Бушміцкія хутары... Ужо з шасьці гадзін раніцы 27-га жніўня яны былі бітком набіты народам. Людзі прышлі адусюль: з Высокага, Каменца, Берасьця.

... Усюды зьвінелі шклянкі. Стаяў моцны пах сьпірту, няслося разнагалоснае пяяньне.

— Дзе гарманісты? Давайце яго сюды! — крычалі ў натоўпе.

Неўзабаве зьявіўся гарманісты, камсамолец Іван Карпук, фізрук (фізкультурны кіраўнік — А. Б.) Бушміцкае сямігадовае школы. Хтосьці падаў яму лаўку. Ледзь трымаючыся на нагах, ён сеў, схіліў галаву на плячук і расьцягнуў мех.

Усё навокал закружылася, зашумела. Вось выскачыла моцна падвыпіўшая жанчына й пайшла колам упрысядку.

За ёй, узяўшыся за бакі, топчуцца тры бабулькі, напяваючы брынклівым галасам старамодныя прыпеўкі, а побач зь імі пусьціліся ў скокі камсамольцы Хвёдар Гайдукевіч — касір калгасу «Перамога», падлічвальнік гэтага-ж калгасу Мікалай Крэчка, загадчыца Бушміцкае бібліятэкі Аўгеньня Піўнюк і іншыя.

З раньня да познае начы людзі пілі, буянілі, бязьдзейнічалі. А на другі дзень гулянка поўным ходам прадаўжалася па хатах калгасьнікаў.

Сярод сьвяткуючых былі бадай усе камсамольцы з калгасаў «Перамога», імя Леніна, імя Молатава, значная частка камсамольцаў Вярховіцкае МТС. Актыўным удзельнікам «ігрушы» быў таксама камуністы Емяльян Кукіш з калгасу імя Молатава.

Аналізуючы шкоду, якую спрычыніла калгасам гэтае «сьвята», сакратары нізавых партыйных арганізацыяў т. т. Пашкінов, Раковіч і Вічтомов бездапаможна разводзяць рукамі:

— Нічога ня зробіш. «Ігруша» — гэта ня першае й не апошняе сьвята. Стыхія!

Гэткае-ж думкі прытрымоўваюцца і ў вадзьдзеле прапаганды й агітацыі РК КПБ, у вадзьдзеле культуры, у райкоме камсамолу.

Памылковы погляд! Факты сьветчаць аб слабасьці ідэялягічнае работы, аб прымірэнчых адносінах да варожых уплываў, аб тым, што атэістычная прапаганда ў Высокаўскім раёне пастаўлена вельмі незадавальняюча. У гэных-жа калгасах імя Молатава, «Перамога», імя Леніна і ў шмат якіх іншых у бягучым годзе ня было прачытана ніводнае лекцыі на антырэлігійныя тэмы, сельскія лектары і ў запраўднасьці разваліліся. Гэтым і кіруюцца служнікі царквы.

**Г. Астарашков**

*

Так, запраўды нічога ня зробіш — стыхія! Стыхія, якая нат цераз камуністага Кукіша падсоўвае пад нос партыі й таварышу Астарашкаву кукіш з макішам. Фэльетонныя-ж паклёпы газэціны — ці-ж гэта навіна гэтай стыхіі?!

А погляд адзьдзелу прапаганды й агітацыі правільны. Перахрысьціся, тав. Астарашков! — Факты сьветчаць не аб слабасьці ідэялягічнае работы, бо ад гэтае «работы» й бездапаможнага ляманту аб ейнай патрэбе разбухае ўся савецкая прапаганда. Узмацняць далей гэтую «работу» — г. зн. пасланць камуністага Кукіша на чале ўсіх камсамольцаў разам з загадчыцай Бушміцкае бібліятэкі... на Калыму золата капаць. Факты-ж сьветчаць аб цьвярдзіні тае стыхіі, якая грозна ўздымаецца ня толькі ў вабароне рэлігійных пачуцьцяў народу, але і ў вабароне ўсяе беларускае традыцыі, якую-б так ахвоча расшарпала Масква кіпцюрамі тав. Астарашкава.

**А. Б.**

# Прыгожыя словы удзячнасьці

У вадным з папярэдніх нумароў «Бацькаўшчыны» мы пісалі, што гішпанскія дзеці ладзяць арганізаваныя малітвы за краіны й народы, паняволеныя бальшавізмам. Там пісалася, што гішпанскія дзеці дыецэзіі Фэрроль у правінцыі Галіцыя прадметам сваіх малітваў выбралі якраз Беларусь і беларускі народ. У сувязі з гэтым Аб'еднаньне Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі ў Аўстраліі выслала гэным дзецям шчырую падзяку, копію якой ніжэй зьмяшчаем:

**«Да Гішпанскіх дзяцей Дыецэзіі Фэрроль у Галіцыі.**

**Дарагія Дзеткі!**

**Дайшлі весткі і да нас, беларускіх эмігрантаў у далёкай Аўстраліі аб тым, што Вы моліцеся Богу за нашую паняволеную бальшавікамі краіну й за наш многапакутны беларускі народ.**

**Гэты высокі й шляхотны ўчынак Ваш, дарагія Дзеткі, глыбака ўзрушыў нашыя сэрцы і ўліў новы струмень веры, што нашая краіна не пакінутая на ласку лёсу, бо з намі балее душою і гішпанскі народ і ўзносяцца малітвы да Ўсявышняга з вуснаў ягоных дзяцей.**

**Дарагія Дзеткі! Малітвы, што йдуць ад Вашых шчырых і чыстых сэрцаў, дойдуць і ўпадуць крышталам перад Прастолам Усявышняга. Верце, што пакуты й нядоля нашых братоў, сёстраў, бацькоў, матак і дзяцей, якія жывуць на Бацькаўшчыне, хутка праміне, бо яны і мы не пакінулі глыбокае й сьвятое веры ў Міласьць Божую.**

**Весткі аб Вашых малітвах дойдуць на нашую Бацькаўшчыну — Беларусь і падтрымаюць сілу духа і моц цела дляператрываньня нядолі. Весткі аб Вашых малітвах дойдуць і да беларускіх дзетак, абадраных і галодных, якім забаронена маліцца Богу, але-ж вера ў Бога й Ягоную Міласьць, упоеная ім бацькамі, моцна трымаецца ў душах іхніх.**

**Калі даведаюцца нашыя дзеткі на Бацькаўшчыне, што Вы моліцеся за іх, вочкі іхнія, нашых дзяцей-пакутнікаў, поўныя сьлёз бязьмернай удзячнасьці, будуць накіраваныя на захад, дзе ляжыць свабодная Гішпанія, дзе жывуць шчасьлівыя й добрыя дзеткі, якім можна свабодна верыць у Бога і маліцца Яму.**

**Няхай Вас узнагародзіць Бог за вялікі й сьвяты ўчынак, а нашая беларуская ўдзячнасьць да Вас, дарагія Дзеткі, упішыцца прыгожымі літарамі ў гісторыю нашае краіны — Беларусі.**

**Прыміце словы шчырае й глыбокае ўдзячнасьці!**

**Старшыня Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі**
**(К. Сіткоўскі)**
**Сакратар (А. Васіленя)**
**Аўстралія, 25. 8. 1954 г.**

### АСАБІСТАЕ

Дзяцюк 29 год, рост 168 цм., на добрай працы ў Францыі, хоча пазнаёміцца з суродзічкай беларускай, украінскай або расейскай нацыянальнасьці векам да 29 год у мэтах жанімства. Пісаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны» пад «Н».

## ШУКАЮЦЬ

**Бацькоў і брата** зь вёскі Чыжыкі Івацэвіцкай воласьці Косаўскага павету, якія ў 1945 годзе былі ў францускай зоне Нямеччыны, шукае Сіткевіч Кастусь. Весткі слаць на прадстаўніка газэты «Бацькаўшчына» ў Ангельшчыне.

**А. БАБАРЭКА**

# Паэма „Сымон Музыка“ Якуба Коласа

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

**III**

... І выхаду шукаў
Адбітак родных зьяў
У словах-вобразах, у песьнях вольна-плынных.
Я. Колас
Прысьвечаньне да «Сымона Музыкі».

«Сымон Музыка», найлепшая паэма з творчасьці Якуба Коласа, каштоўная ня толькі як мастацкае выяўленьне вобразу песьняра-героя адраджэнскага кругабегу ў гісторыі беларускай літаратуры. Каштоўная гэта паэма, як выражэньне ў мастацкай форме коласаўскага вопыту жыцьця, коласаўскага ўспрыяцьця сьвету і яго разуменьня. Каштоўная таксама яшчэ і тым, што ставіць сабою шмат праблем рознастайнага характару, вывучэньне і разгляд якіх складае задачу крытыкі.

У першую голаў паэмаю ставіцца праблема мастака, як адбітка «родных зьяў». На пытаньне, што такое мастак, Якуб Колас паэмаю «Сымон Музыка» адказвае, што гэта асоба перш за ўсё і асоба з асаблівай псыхічнай арганізацыяй, а ня звычайнаю. Гэта арганізацыя надзвычайна тонкая і празрыстая, дзякуючы чаму яна надзвычайна чулая і здольная рэагаваць на самыя нязначныя і няпрыкметныя зрушэньні звонку яе. Пры гэтым яна рэагуе заўсёды ў вадным і тым-жа кірунку ў тым сэнсе, што, застаючыся з вонкавага боку ўзглядна спакойнай, яна ўбірае ў сябе ўсё сваім нутром, каб потым перапрацаваўшы яго ў сабе, аддаць зноў сьвету гукамі музыкі, або словам-вобразам, або песьняй, аддаць яго, кажучы словам Багдановіча, жомчугам, у які ператвараецца сілаю пачуцьця навет грубы кавалак жыцьця. Быць можа, толькі дзякуючы гэтай уласьцівасьці, што не дазваляла музыку кінуцца ў жыцьцёвы штодзенны вір дзеля рэальнага зь ім змаганьня, Сымон пралажыў у жыцьці сваю «пясьнярскую каляіну», выйшаўшы цэльным і цэлым з жыцьцёвых кустоў лазы, быльніку і чарнобылю. Словам, мастак па Коласу — гэта як-бы асаблівы тып чалавека. І Я. Колас сваёй паэмаю сьцьвярджае, што гэтакія людзі ёсьць і ў Беларусі, пачатак свой яны бяруць у беднай вясковай хаце і выносяць шмат гора, пакуль выходзяць на «пясьнярскую каляіну», яны ў роўнай долі зь вясковым пралетарам. Вось адна з родных зьяў, што знайшла сабе адбітак у Коласа і выявілася ў слове-вобразе «Сымон Музыка».

Гэта зьява адказвае і на другое пытаньне, ці можна зрабіцца мастаком. Колас пра Сымона кажа, што ён «прыроджаны пясьняр», і тым самым адказвае, што мастаком трэба радзіцца, а зрабіцца ім нельга. І тут выплывае новае пытаньне, як-жа пазнаць «прыроджанага песьняра?» Колас адказвае — па яго песьнях, як пазнаны быў музыка ў Сымоне і Курылам і жабраком, і Шлёмаю, і Яхімам, і панам-князем, і дзедам Данілам, і Ганнаю...

На пытаньне аб месцы песьняра ў жыцьці Колас сваёю паэмаю кажа, што ён у ўмовах паднявольнага жыцьця ня мае прытулішча, дзякуючы толькі таму, што радзіўся ў сялянскай беднай хаце і застаў на зямлі ўжо ўсё разьмяркованым і распарадкаваным, знайшоў людзей ужо з пэўнай доляй. Гэта з боку сацыяльнага. Па тым-жа, якое значэньне мастака ў жыцьці людзей, яму належыць месца цэнтральнае, месца таго вузла, што злучае ідэяльнае з рэальным, месца перадатчыка ідэяльнага ў рэальнае, месца тых ніцей, што «злучаюць гук пяруноў зь немым голасам цішы». Мастак гэта ключ, што адмыкае сьвет ідэяльнага і пускае яго акавіту ў сьвет рэальнага. Пясьняр — гэта існасьць, празь якую «дух сусьвету з духам лучыцца зямлі».

Паэмаю «Сымон Музыка» ставіцца пытаньне і аб працэсе творчасьці, як працэсе, які адбываецца ў часе і вызначаецца трыма момантамі: зьбіраньнем скарбаў з самых рознастайных крыніц жыцьця і прыроды, перажываньнем гэтага скарбу «ў сэрцы» паэты («у сэрцы перажыты і росамі абмыты дзяньніц маіх»...) і нарэшце выхадам гэтых «абмытых росамі дзяньніц» скарбаў у «словы-вобразы, у песьні вольна-плынныя». Словам, творчасьць — гэта вялікая нутраная праца пачуцьцяў, думкі і волі, праца над успрынятым звонку праз адчуваньні, накіраваная на ператварэньне яго ў слова-вобраз ці вольную песьню.

Азначанымі пытаньнямі далёка ня вычэрпваюцца ўсе пытаньні, што ставяцца і так ці йначай разьвязваюцца паэмаю «Сымон Музыка». Уважлівы чытач знойдзе ў ёй мастацкае выражэньне пытаньняў і філёзофскага і эстэтычнага, і псыхолёгічнага, і сацыяльна-нацыянальнага парадкаў як адбіткаў «родных зьяў». Пытаньні гэтыя ў большасьці ня новыя, але нова і цікава іх пастаноўка і іх мастацкае выражэньне, што можа быць стымулам дзеля спэцыяльных досьледаў і пачаткам філёзофскіх шуканьняў на беларускай глебе. Вось для прыкладу скажам, хоць-бы пытаньне аб магчымасьцях пазнаньня і яго шляхох. Сымон Музыка па аналёгіі з сабою, з сваімі нутранымі псыхічнымі працэсамі заключае аб існаваньні нутранага жыцьця ўва ўсім, што яго акружае: і ў жывой і мёртвай прыродзе. Рэальнае веданьне Сымона яму кажа, што, ня гледзячы на адсутнасьць зь яго боку вонкавага выражэньня, па якім-бы людзі маглі пазнаць, што робіцца ў яго нутры, у яго ня спыняецца жыцьцё, у яго ёсьць і думкі, і адчуваньні, і імкненьні. Адгэтуль па аналёгіі з сабою Сымон заключае ці, як ён сам выражаецца, «так адчувае», што і тое, што маўчыць, мае ў сабе жыцьцё. Гэта фактычна адчуваньне сілы ў магчымасьцях, у патэнцыі. І гэта адчуваньне дае багаты матарыял для яго выабражэньня і стварэньня сапраўды мастацкіх вобразаў, вобразаў жывых, лёгкіх для ўспрыяцьця ўсякага чалавека. Сымон ведае, што зыкі яго граньня, якія ў час ігры разносяцца ў прасторы, ідуць ад яго нутра, зь яго самога, адгэтуль уяўленьне аб тым, што і зямля таксама жывая і ўсё, што зь яе — «краскі, дзерава, трава» — гэта знадворнае выражэньне яе нутраной існасьці, гэта імі зямля гаворыць сьвету, гэта імкненьні «яе духу лучыцца з духам сусьвету». Такім чынам, у Сымона жыве пачуцьце ці адчуваньне, што ня ўсё тое, што ўспрыймаецца вонкавымі адчуваньнямі, што ня ўсякі вонкавы вобраз тэй ці іншай рэчы адпавядае сапраўднасьці, і што чалавек, які судзіць аб зьявах ці рэчах толькі па іх вонкаваму выгляду, толькі па ўражаньню ад вонкавых адчуваньняў, памыляецца. Каб ведаць сапраўды тую ці іншую існасьць, апроч адчуваньняў патрэбна яшчэ й работа думкі ці, па Сымону, патрэбна разуменьне мовы, зьяў і рэчаў.

Тое-ж у думках і Дзеда Данілы. Па яго ўяўленьню: на сьвеце ёсьць шмат загадак, ключы ад якіх у іх прыметах і знаках. Каб разгадаць загадкі, трэба адгадаць гэтыя прыметы і знакі розумам. Гэтыя-ж знакі ёсьць ува ўсім у прыродзе. Розум-жа і служыць, каб «позна-рана зьняць няведаньня пячаць, а той напіс няўчытаны растлумачыць, адгадаць». Трэба зьняць «уладу нейкіх слоў», што засланяюць сьвет ад людзкога вока. А фактычна ўсе загадкі ў тым, што Даніла ня ведае рэальных насіцеляў тэй сілы, што можа рэалізаваць і яго імкненьні і жаданьні. Адчуваць, што гэтыя сілы ёсьць, — Даніла адчувае, і гэта адчуваньне ажыцьцяўляе ў постаці нявіднай рукі і нечага розуму, што сочаць праўду на зямлі. Ня ведаючы рэальнага ажыцьцяўленьня гэтых сіл, Даніла **творыць** для сябе гэту рэальнасьць і кажа Сымону пра замак: «...людзі-практыкі ня лгуць: чыесь рукі сеці вяжуць і на замак іх нясуць. Не дарма-ж гудзе сякера; чуе парк тут свой канец». Гэта хутчэй не пазнаньне аб'ектаў, а самапазнаньне і аб'ектывізацыя пазнанага ў сабе самым.

Ставіцца ў паэме і пытаньне аб чалавеку наогул, яго дачыненьні да сьвету і яго значэньні ў сьвеце, аб сэнсе жыцьця, аб сувязі эстэтычнага з этычным, аб тым, што эстэтычнае ёсьць пачатак і этычнага. Ня будзем пералічаць тут усіх пытаньняў, якія ўзьнімаюцца паэмаю «Сымон Музыка» і разьвязваюцца памастацку. Ужо й зазначанага досыць, каб уявіць сабе, зь якой глыбінёю і шырынёю ўспрыймае Якуб Колас жыцьцё і сьвет. Аб гэтай-жа шырыні і шырыні мастацкага выяўленьня гаворыць яшчэ і тое, што Якуб Колас малюе ў сваіх творах **шматвобразнасьці жыцьця.** Так, і ў «Сымоне Музыку» чытач разам з Сымонам жыве ў рознастайных абставінах і кругох жыцьця, бачыцца і знаёміцца з рознастайнымі праявамі сьвету і жыцьця людзей, пачынаючы ад жабрака да князя, хоць праўда й не заўсёды ў поўным іх выяўленьні, але ўва ўсякім разе ў такіх праявах, што даюць зьмест для глыбокіх перажываньняў.

Багаты адбітак родных зьяў, у музычным слоўна-вобразным выяўленьні! Гэта багацьце прымушае часта навет звароч-вацца за дапамогаю да алегорыяў-сымбаляў, хоць аднак-жа нельга сказаць, каб яны абагачалі мастацкае выяўленьне «родных зьяў». У лепшым разе яны або тлумачаць або ўзмацняюць той ці іншы вобраз, аслабляючы разам з тым адчуваньні, выкліканыя дзейнымі ці то асабовымі вобразамі людзей. Справа ў тым, што алегорыі — гэта не для пачуцьця, а для розуму. Гэтае-ж багацьце выліваецца і ў лірычных адступленьнях у паэме, у якіх Я. Колас выяўляецца ўва ўсёй сваёй сіле мастака.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**